РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

«ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ» на 8-мі старонках

Free Hlybokaye

*Дык жа ўцям! На Беларусі – беларусы жывуць!*

*Янка Купала.*

Жыве Беларусь!

Wolne Glebokie

Выдаецца са снежня 1994 года *№19-20 (51-52), жнівень, 2000 года *Кошт па дамове

## ЦЫТАТА НУМАРА

Проці цячэння вады зможа толькі жывое паплыць, хвалі ж ракі заўсягды цягнуць тое, што скончыла жыццё.

*М. Багдановіч*

## Манкуртызацыя

Так і знікне народ, і згніе,
Хоць працуюць тут адмыслова...
Мы-- дыяспара ў роднай краіне,
Дзе цураюцца роднага слова.

Без прычыны-- радасць ці гора,
Размятаем гарэлку у краме.
А на мове сваёй гаворым
З аднадумцамі і сябрамі.

Тут ніхто ў цябе не спытае,
Ці хапае на хлеб да зарплаты.
І ў аўтобусе скажам: «Вітаю!»--
Ўсе глядзяць быццам бы на вар`ята.

Думкі круціць, бы човен на стрыжні.
Нешта ў іх ад паганскай замовы...
А скажыце, нашто у Парыжы
Таварыства французскае мовы?

А. Белы «Каліва»

## Адным радком

● Па дадзеных на 21 ліпеня агульная запазычанасць па зарплаце ў Віцебскай вобласці склала 1,9 млрд. рублёў. Больш 70% даўгоў прыходзіцца на калгасы і саўгасы. Кіраўніцтва вобласці абяцае разлічыцца з людзьмі да 15 жніўня.

● Наваполацк аказаўся ледзь не адзіным горадам Беларусі, дзе прадстаўнікам апазіцыйных партый мясцовыя ўлады дазволілі правесці 27 ліпеня мітынг з нагоды 10-годдзя прыняцця Вярхоўным Саветам БССР Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Раней гэты дзень быў Днём незалежнасці краіны. Зараз Дзень незалежнасці адзначаецца 3 ліпеня.

*А. Козік*

● Прадстаўнікі Беларускага патрыятычнага саюза моладзі (БПСМ) -- арганізацыя, якая створана пры актыўнай падтрымцы прэзідэнта,-- будуць уваходзіць у склад праўленняў сельскіх гаспадарак Гомельскай вобласці. 12 раёнаў вобласці, Светлагорска і Гомеля атрымалі загад вылзеліць прадстаўнікам саюза па аўтамабілю з лімітам прабега 400 кіламетраў у месяц.

*І. Макавецкая*

● За мінулы год у Віцебскай вобласці здзейснена 169 наўмысных забойстваў. Ахвярамі іх сталі 169 чалавек, 34 чалавекі былі паранены, 19 -- задушаны. У спісе забойцаў 172 мужчыны і 29 жанчын. Большасць злачынцаў -- беспрацоўныя, чацвёртая частка -- рабочыя, пятая -- пенсіянеры, узрост -- да сарака год. 7 забойстваў на рахунку падлеткаў маладзей 18 год, 11 -- на рахунку людзей, якім больш 60-ці.

*Н. Пархоменка*

● З 31 ліпеня па 4 жніўня ў Беларусі з афіцыйным візітам знаходзілася дэлегацыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ). Прадстаўнікі ПАСЕ ацанілі бягучую палітычную сітуацыю ў краіне, якая датычыць стварэння неабходных умоў для правядзення дэмакратычных парламенцкіх выбараў у кастрычніку. Дэлегацыя сустрэлася з прадстаўнікамі ўлады і друку, лідэрамі апазіцыі і прафсаюзаў.

БелТА

● 385 чалавек атрымалі ў Беларусі статус бежанцаў. З іх 294 афганцы, 35 грузін, 18 эфіопаў, па некалькі чалавек зарэгістравана з Ірана, Ірака, Індыі і Руанды.

● У Дрыбінскім раёне Магілёўскай адбыўся беспрэцэдэнтны выпадак. Старшыня калгаса "Дрыбінскі" Мікалай Юркоў баставаў разам з сялянамі. Ён сказаў: «У мяне і людзей няма іншага выйсця. Я не магу атрымаць грошы за малако, што калгас прадаў дзяржаве. А значыць, не магу аддаць вяскоўцам іх заробкі. А гэта 20 мільёнаў новых рублёў. А людзі не могуць па-чалавечы жыць, не хочуць бясплатна працаваць. Што рабіць нам у гэтай сітуацыі? Дзяржава забараніла нам самастойна прадаваць сваю прадукцыю. Яна загадвае прадаваць усё дзяржаўным нарыхтоўшчыкам. Значыць, улады павінны і адказваць за тое, што не выконваюць сваіх абавязкаў. Наша папераджальная забастоўка -- гэта пратэст супраць цяперашняга становішча, калі мы, нават ведаючы што і як рабіць, нічога зрабіць не можам, нам звязваюць рукі шматлікія загады і інструкцыі».

Забастоўка была сімвалічнай, цягнулася ўсяго гадзіну. Праўда, раззлаваныя несправядлівасцю даяркі вылілі бітон малака на зямлю. Пад час забастоўкі адбыўся кароткі мітынг.

*Па матэрыялах «Нашай нівы»*




Фота Ул. Скрабатуна

Фрагмент свята «Квітней, Глыбоччына!», ліпень 2000 г.

## НАСТАЎНІКАМ НЕ ВЫПЛАЧАНЫ ГРОШЫ

Старшыня Рэспубліканскага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Т. Чобатава накіравала прэм`ер-міністру Беларусі У. Ярмошыну пісьмо з патрабаваннем ліквідаваць доўг па зарплаце настаўнікам. Агульная сума запазычанасці на 21 ліпеня па краіне складала 3 мільярды 512 мільёнаў рублёў. Прафсаюз работнікаў адукацыі і навукі заяўляе аб парушэнні канстытуцыйных правоў супрацоўнікаў гэтай сферы. «У вачах настаўніцтва дзяржава канчаткова губляе свой сацыяльны статус,-- падкрэсліваецца ў звароце.

*І. Леўшына, БелаПАН*

## ХУТКА ПАРЛАМЕНЦКІЯ ВЫБАРЫ

1 жніўня ў глыбоцкім Доме Саветаў адбылося першае пасяджэнне акруговай выбарчай камісіі №22, куды ўключаны тэрыторыі Глыбоцкага і Докшыцкага раёнаў (цэнтр г. Глыбокае).

На пасяджэнні былі разгледжаны арганізацыйныя пытанні, было абрана кіраўніцтва. Старшынёй камісіі стаў кіраўнік газавай службы раёна А.С. Калбасіч.

Сярод членаў камісіі прысутнічаюць і працаўнікі сельскай гаспадаркі, да прыкладу, Зміцер Курцэвіч, якога вылучылі жыхары Латыголі і Дзеркаўшчыны зборам подпісаў.

*Л. Шпак*




## ЦУКАР ЕДЗЕ ЗА МЯЖУ

За два дні ў раёне населенага пункта Кемелішкі Гродзенскай вобласці пагранічнікі знайшлі спачатку прычэп «Зубраня» да легкавой аўтамашыны, напоўнены 28-мю мяшкамі цукру, а затым цэлы «салодкі» склад, дзе былі 52 мяшкі такога патрэбнага зараз у Беларусі прадукта. Кошт цукру, які хацеў «выехаць» за мяжу, складае каля 1 мільёна 600 тысяч рублёў.

*В. Будкевіч, БелаПан*

## У Ізраілі хвораму ўжывілі штучнае сэрца

Пацыентам стаў 64-гадовы мужчына, якому нельга было перасадзіць сэрца ад донара. Пасля аперацыі хворы знаходзіцца ў цяжкім стане, аднак, яго штучнае сэрца працуе добра. Сэрца гэтае мае памер 10 х 8 сантыметраў, зроблена з металу і важыць 350 грамаў. Яно ўжыўлена побач з уласным сэрцам пацыента. Зараз яно жывіцца знешняй батарэяй, але ў будучыні хірургі спадзяюцца змясціць мініяцюрную батарэю ўнутры цела хворага.

## БЕЛАРУСЬ «НАРЭЗАЛІ» НА АКРУГІ

З 6 жніўня пачнецца вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты палаты прадстаўнікоў шляхам збору подпісаў, якое працягнецца да 5 верасня. Затым з 5 па 14 верасня акруговыя выбарчыя камісіі павінны праверыць усе прадстаўленыя дакументы і зарэгістраваць кандыдатаў. З 15 верасня па 14 кастрычніка ўключна кандыдаты ў дэпутаты будуць праводзіць сваю агітацыйна-прапагандысцкую перадвыбарчую кампанію. Дзяржаўныя расходы на выбарчую кампанію, па словах Ярмошынай, складаюць крыху больш за 4 мільёны долараў ЗША па рынкаваму курсу. Калі раздзяліць гэтую суму на 7 млн. 300 тыс. беларускіх выбаршчыкаў, то на кожнага з іх прыпадзе каля 60 цэнтаў.

*Л. Шпак*

## СТАРОНКА Таварыства Беларускай Мовы

**Гэты матэрыял адрасуецца настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, інтэлігенцыі, выпускнікам гарадскіх і вясковых школ, якія выбіраюць зараз свой жыццёвы шлях і іх сябрам, якія развітаюцца са школай праз год-другі, усім свядомым грамадзянам Беларусі і чытачам нашай газеты, шчырым прыхільнікам роднай, пявучай і неўміручай беларускай мовы, якая павінна не гараваць, а панаваць у сваёй дзяржаве разам са сваім народам.**

# КАНЦЭПЦЫЯ СТВАРЭННЯ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА УНІВЕРСІТЭТА

**Праект (версія А. Трусава, А. Грыцкевіча, І.Саверчанкі)**

## ПРАДМОВА

**У артыкуле 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пазначана:** ***«Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносінаў. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання».***

На жаль, гэты артыкул нашага Галоўнага закону не дзейнічае ў поўным аб'ёме, бо на Беларусі няма ніводнай вышэйшай навучальнай установы, дзе б усе студэнты навучаліся на роднай, а разам з тым і дзяржаўнай беларускай мове і дзе б вытрымліваўся адпаведны моўны рэжым. Тыя нешматлікія фармальныя беларускамоўныя плыні, што засталіся на некаторых гуманітарных факультэтах некалькіх ВНУ у разлік браць нельга, бо поўнае выкладанне па-беларуску ўсіх дысцыплін (асабліва замежных моў) там адсутнічае.

У сувязі з гэтым ТБМ імя Ф. Скарыны цягам апошніх трох гадоў патрабуе ад кіраўніцтва краіны адкрыцця ў Мінску новага Беларускага Нацыянальнага універсітэта (далей БНУ), у якім усе дысцыпліны без выключэння выкладаліся б па-беларуску, а таксама на дзяржаўнай беларускай мове дзейнічала б уся сістэма справаводства (уключна з бухгалтэрыяй) з філіяламі ў тых вялікіх беларускіх гарадах, дзе жыве болей за 100 тыс. жыхароў і дзе адсутнічаюць іншыя ВНУ.

На сёння ТБМ мае каля 14 тысяч подпісаў грамадзян Беларусі ды іншых краін з патрабаваннем адкрыць на Беларусі вышэйзгаданую навучальную ўстанову, у якой усе дысцыпліны (у тым ліку й замежныя мовы) будуць выкладацца на дзяржаўнай беларускае мове.

На жаль, звароты ТБМ да кіраўнікоў беларускае дзяржавы А. Лукашэнкі ды С. Лінга засталіся дасюль без адказу і таму было вырашана ўзнавіць збор подпісаў жыхароў нашае краіны з патрабаваннем адкрыцця БНУ. А напрыканцы мінулага года пры ТБМ была зарганізаваная ініцыятыўная група па стварэнні БНУ.

У адпаведнасці з рашэннем лістападаўскае Рады ТБМ і з асабістымі пажаданнямі ў склад ініцыятыўнае групы зараз уваходзяць 42 асобы. Сярод іх акадэмікі Радзім Гарэцкі ды Сямён Шарэцкі, член-карэспандэнт НАН, былы прарэктар БДУ Станіслаў Шушкевіч, дактары навук ды прафесары Алесь Астроўскі, Анатоль Грыцкевіч, Мікола Крукоўскі, Уладзімір Кулажанка, Алесь Краўцэвіч, Леанід Лыч, Адам Мальдзіс, Генадзь Цыхун, Генадзь Пятроўскі, вядомыя беларускія пісьменнікі Ніл Гілевіч, Вольга Іпатава, Васіль Зуёнак, старшыня ТБШ Алесь Лозка, кіраўнік Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны Любоў Канаплянік, былы пасол Беларусі ў Германіі, дацэнт Пятро Садоўскі ды іншыя вядомыя на Беларусі выкладчыкі ВНУ з Менску, Гродна, Брэста, Віцебска ды Горак. Удзельнікі групы ўжо распрацавалі праект Статута БНУ і зараз ствараюць яго Канцэпцыю і структуру.

## КАНЦЭПЦЫЯ БНУ

Удзельнікі ініцыятыўнае групы выказаліся за стварэнне менавіта новай навучальнае ўстановы з улікам дэмакратычнага вопыту лепшых універсітэтаў Еўропы ды ЗША. Выкладчыкі ды студэнты мусяць свядома, без усялякага адміністратыўнага прымусу, выбіраць беларускую мову навучання, як адну з самых буйных ды распрацаваных славянскіх моваў. Акрамя таго, студэнты ўсіх факультэтаў абавязкова вывучаюць латынь і англійскую мову, а таксама на ўласны выбар адну з класічных еўрапейскіх моваў (французскую, нямецкую, іспанскую) і адну з славянскіх моваў (балгарскую, чэшскую, сербскую, польскую, украінскую, рускую).

Студэнты кожнага факультэта мусяць таксама на першым курсе вывучаць гісторыю свае асноўнае спецыяльнасці, якая павінна грунтавацца на мясцовых беларускіх і агульнаеўрапейскіх прыкладах. Бо сучасныя беларускія студэнты (хімікі, біёлагі ці фізікі) не ведаюць, як гэтыя навукі развіваліся на тэрыторыі Беларусі, а таксама пра сваіх найбольш дасведчаных у вышэйзгаданых навуках землякоў.

Галоўная мэта БНУ падрыхтоўка кадраў беларускае эліты для дзяржаўных і навукова-даследчых установаў Беларусі. Гэтага вымагае гісторыя ўсёй беларускай педагагічнай навукі.

Першымі цэнтрамі беларускай адукацыі сталі старажытныя гарады Беларусі Полацак і Тураў. Дзейнасць Еўфрасінні Полацкай ды Кірылы Тураўскага ўзняла Беларусь на ўзровень перадавых еўрапейскіх краінаў, паказала ўсяму свету, што ў цэнтры Еўропы пачала фармавацца новая этнічная і палітычная супольнасць. У 13 - 15 ст. ст. да вышэйзгаданых адукацыйных цэнтраў далучыліся Наваградак (разам са славутым Лаўрышэўскім манастыром), Вільня (новая беларуская сталіца) і Смаленск (найбуйны асяродак беларускага летапісання). У 15-16 ст.ст. беларусы ўжо навучаюцца ў еўрапейскіх універсітэтах і становяцца навукоўцамі еўрапейскага ўзроўню.




У 16 стагоддзі ў Беларусі існавалі школы еўрапейскага ўзроўню адукацыі. У 1579 годзе ў Вільні быў адкрыты універсітэт пад назвай Акадэмія, дзе вышэйшую адукацыю атрымоўвалі юнакі з Беларусі і Літвы. Спачатку універсітэт меў 3 факультэты. Студэнты ўсіх факультэтаў вывучалі беларускую мову. Ва універсітэт прымаліся выхаванцы сярэдніх школ Беларусі, дастаткова падрыхтаваныя да ўспрыняцця дысцыплінаў, што вывучаліся ва ўсёй Еўропе. У Беларусі ў 16 - 18 стагоддзях існавала шырокая сетка сярэдніх школ, сярод якіх асабліва вылучаліся іезуіцкія калегіі і піярскія вучылішчы. У канцы 18 стагоддзя ва універсітэце былі адчыненыя фізічны і медыцынскі факультэты. Свой унёсак у развіццё вышэйшае адукацыі Беларусі зрабіла полацкая іезуіцкая акадэмія, адчыненная ў 1812 годзе, а таксама Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Аднак царскі рэжым зачыніў усе гэтыя вышэйшыя навучальныя ўстановы з-за рэвалюцыйных поглядаў студэнтаў і часткі прафесуры.

Тым не менш, традыцыі нацыянальнай вышэйшае адукацыі захаваліся. У 1918 годзе ў Менску быў адкрыты Педагагічны інстытут, а ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі прыняў рашэнне аб адкрыцці Беларускага нацыянальнага універсітэту. 1 ўрэшце ў 1921 годзе ў БССР пачаў сваю дзейнасць Беларускі дзяржаўны універсітэт, дзе распачалася падрыхтоўка нацыянальных навуковых ды педагагічных кадраў. Для жыхароў Заходняй Беларусі значную ролю адыграў Пражскі універсітэт, дзе мела магчымасць навучацца таленавітая беларуская моладзь. Аднак, сталінскія рэпрэсіі і другая Сусветная вайна цалкам разбурылі і знішчылі нацыянальную вышэйшую школу. Дастаткова згадаць, што ў 50-70 г.г. 20 стагоддзя працэнт беларусаў сярод выкладчыкаў нашых ВНУ, асабліва сярод дацэнтаў і прафесараў, быў меншы за 50%. Таму беларуская мова фактычна была забароненая для ўжытку ў ВНУ, а яе носьбіты праследваліся. Варта згадаць спробу беларускіх студэнтаў філфака БДУ дамагчыся выкладання па-беларуску некаторых дысцыплінаў і што з гэтага атрымалася.

Толькі пасля аб'яўлення беларускае мовы дзяржаўнай, яна пакрысе стала вяртацца ў беларускія ВНУ, асабліва на гуманітарныя факультэты. Таму зараз мы маем дастатковую колькасць дактароў і кандыдатаў навук, прафесараў і дацэнтаў, каб цалкам укамплектаваць усе факультэты БНУ высокапрафесійнымі, беларускамоўнымі кадрамі. Дарэчы, некаторых выкладчыкаў, якія на высокім узроўні маюць магчымасць выкладаць па-беларуску, можна запрасіць з іншых краін: Расіі, Літвы, Польшча, ЗША і Вялікабрытаніі. Адной з галоўных хібаў савецкай адукацыі быў татальны ваяўнічы атэізм, які асабліва выяўляўся ў ВНУ.

Уся сістэма выкладання ў БНУ будзе грунтавацца на спрадвечных хрысціянскіх каштоўнасцях, таму кожны студэнт мусіць ведаць асновы хрысціянскае маралі, грунтоўна вывучаць Біблію і іншыя святыя кнігі, разбірацца ў асноўных хрысціянскіх дагматах розных канфесіяў. Студэнты гуманітарных факультэтаў абавязаны праслухаць курсы па гісторыі іўдаізма і іслама, а таксама ведаць іх ролю ў нашае гісторыі.

## СТРУКТУРА БНУ

БНУ -- вышэйшая навучальная ўстанова, у якой рэалізуюцца прынцыпы акадэмічнае свабоды.

Папярэдне прыйшлі да згоды ў тым, што БНУ павінен складацца з наступных факультэтаў: юрыдычны, літаратурны, філасофскі, прыродазнаўчы, гісторыка-лінгвістычны, фізіка-матэматычны. Колькасць студэнтаў мусіць быць абмежаванаю да 3-3,5 тысячаў чалавек. Галоўная мэта універсітэт -- падрыхтоўка кадраў для беларускай нацыянальнае эліты ў наступным стагоддзі. Мяркуецца, што выпускнікі БНУ павінны стаць кіраўнікамі ў розных сферах палітыкі, культуры, адукацыі ды гаспадаркі незалежнай дэмакратычнай Беларусі.

Юрыдычны факультэт будзе мець аддзяленні міжнароднага, грамадзянскага ды адміністратыўнага права. Сярод прапанаваных кафедраў трэба вылучыць кафедру міжнароднага марскога і паветранага права, а таксама кафедру міжнароднага экалагічнага права.

Мэта літаратурнага факультэта -- рыхтаваць кадры прафесійных перакладчыкаў, літаратурных крытыкаў і журналістаў, рэдактараў ды спецыялістаў выдавецкай справы.

Філасофскі факультэт папярэдне складаецца з двух аддзяленняў: культуралогіі і тэалогіі. Аддзяленне тэалогіі можна размясціць у старажытным Пінску, дзе пашырана дзейнасць розных канфесіяў і маецца адпаведны будынак былога іезуіцкага калегіума 17 ст.

Эканамічны факультэт акрамя аддзялення банкаўска-фінансавай справы мусіць мець кафедру дэмаграфіі, бо Беларусь зараз мае адмоўнае сальда нараджальнасці.

Прыродазнаўчы факультэт утрымлівае два буйных аддзяленні: біялагічнае і геолага-геаграфічнае. У перспектыве да іх далучыцца і экалагічнае з выхадам на чарнобыльскую праблему.

На гісторыка-лінгвістычным факультэце плануецца мець гістарычнае, музейна-архіўнае і лінгвістычнае аддзяленні.

Сярод найважнейшых кафедраў трэба адзначыць кафедры вайсковай гісторыі Беларусі, гісторыі архітэктуры і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, а таксама кафедры балцкіх, славянскіх і ўсходніх моў (арабская, кітайская, фарсі, турэцкая і японская мовы). Частка лінгвістычнага аддзялення з кафедраў балтыйскіх і славянскіх моў можа месціцца ў Лідзе.

Фізіка-матэматычны факультэт мае на мэце распрацоўваць розныя тэарэтычныя накірункі сучаснай навукі. Студэнты гэтага факультэта будуць праходзіць доўгатэрміновыя стажыроўкі ў лепшых універсітах Еўропы і ЗША, а таму павінны добра ведаць англійскую мову.Падмуркам практычнай падрыхтоўкі студэнтаў БНУ з'яўляюцца НАН Беларусі, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, Нацыянальная бібліятэка, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі, Нацыянальны архіў, адзіны пакуль беларускамоўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа, лепшыя выхаванцы якога будуць аўтаматычна залічацца ў шэрагі студэнтаў БНУ. Рэктар БНУ абіраецца таемным галасаваннем Вучонае рады універсітэта. Ва ўніверсітэце дзейнічаюць еўрапейскія нормы памеру працы для выкладчыкаў і 10-бальная сістэма адзнакі ведаў студэнтаў.

Прапануецца надаць БНУ імя Францішка Багушэвіча, вядомага беларускага пісьменніка, юрыста і публіцыста.


Глыбокая моладзь выбірае БНУ

## Капрызы надвор`я

# ЛЕТА, ЯКОГА НЕ БЫЛО

Сёлетняе надвор`е, што тая дзеўка на выданні: то тое не так, то гэта не гэтак. То ліе днямі, тыднямі, то сушыць, а цёплыя сонечныя дні пасярод макраты і пахмурнасці сапраўдныя падарункі.

У маі дажджу амаль не было. Пасадзіўшы агароды, гаспадары цярпліва чакалі хмарак, якія прынеслі б такую патрэбную вільгаць. Нарэшце дождж пайшоў, але не на ўсёй Глыбоччыне яму былі рады. У Глыбокім прагрымела навальніца, гусценькі спорны дожджык добра прамачыў соткі, а ў калгасе імя Чапаева даў град з добры гарох. У Мацясах уся зямля была ім засцелена. Град павыбіваў кволыя яшчэ ўсходы агуркоў, буракоў, іншай гародніны. Ён так дубасіў у шыбы вяскоўцаў, што некаторыя жанчыны, па старынцы, закладалі вокны падушкамі, баючыся, што шкло паб`ецца. Клапатлівая праца на агародах пайшла кату пад хвост. Пасля дажджу людзі дружна адсаджвалі, падкапвалі, палолі...

Затым пачаліся перапады тэмператур: днём 15-17, ноччу 5-7, а ў чэрвені ў некаторых раёнах Віцебшчыны (у суседнім Пастаўскім) надарыліся замаразкі. Ад такіх рэзкіх перападаў не тое, што гародніна адвальваецца, але і людзі пакутуюць. У маі-чэрвені многія пагаворвалі аб павышаным узроўні радыяцыі ў Беларусі.

У канцы мая па гэтай прычыне з Мінска нават выехала ізраільскае пасольства. Паліклінікі Глыбоччыны былі перапоўнены хворымі, якія жаліліся на слабасць, галаўны боль, апатыю, сардэчныя прыступы.

Ліпень не прынёс чаканага сонейка. Дождж суткамі ліў, не дазваляючы высунуць нос з хаты. І калі 14 ліпеня ў Глыбокім вада стаяла ў панадворках і барознах, то Віцебск літаральна «плаваў». На Маскоўскім праспекце, галоўным праспекце горада, вада дахадзіла да капотаў аўтамабіляў, былі затоплены падвалы шматпавярховак і нізкія вуліцы. Да таго ж, сыпануў град з добрае курынае яйка. Ён без цяжкасці прабіваў парасоны, лабавое шкло аўтамашын, пакідаючы свае «адзнакі» ў выглядзе «шышак» і сінякоў на віцябчанах.

Старыя людзі кажуць, што сёлетні год будзе цяжкім, галодным і не верыць у гэта нельга. Вяскоўцы заклапочаны тым, што няма чаго касіць: спачатку трава высахла, затым намокла, пачала гніць. Пачынае гніць яшчэ маладая бульба, збожжавыя і лён палеглі, у некаторых месцах прыбіліся да зямлі і на вялікія ўраджаі спадзявацца неяк.

Нават у самых руплівых гаспадароў-прыватнікаў сёлета слаба растуць агуркі і памідоры. У магазінах агуркі часта адсутнічаюць, а калі і ёсць, то кошт іх не змяншаецца -- 200-300 рублёў за кілаграм.

Некаторыя закупляюць муку, макароны, рыс, нехта адносіцца да трывожных прагнозаў скептычна, хтосьці паранейшаму не разгінаецца, корпаючыся ў агародзе і спадзеючыся толькі на сябе.

Большая палова лета прайшла. Руплівыя гаспадары нарыхтоўваюць дровы, запасаюцца брыкетам і вугалем. Не за гарамі верасень, а там і зіма. Лета, калі хацелася і адпачыць, і пагрэцца, многім не прынесла ні таго, ні другога. Прырода былым бы ў змове з беларускім урадам: пацяшаецца над беларусамі, выціскаючы з іх апошнія сокі, помсцяць ім невядома за што.

**М. Пліцкі**


Фота А. Ліціна


Усмешка лета: адзіны цёплы дзень на тыдні

## Смецце на чырвоным сцягу

Эфект бомбы, якая нечакана разарвалася, мела невялічкая заметка, змешчаная ў адным з нумароў мясцовай газеты. У сваім пісьме жыхарка Пастаў расказвала аб тым, што ўбачыла ў гарадскім парку культуры і адпачынку. У красавіку сюды, па адроджанай савецкай традыцыі, у дзень былым бы добраахвотнага суботніка, школьнікаў прыгналі збіраць згнійшае лісце і мінулагодні хлам. Зразумела, ўладам прасцей вырашыць пытанне добраўпарадкавання тэрыторый горада з дапамогай «заўсёды гатовых» выконваць гэтую работу за бясплатна дзетак, адрываючы іх ад асноўнага занятку-- вучобы, чым шукаць іншае, больш дарагое ў фінансавым плане выйсце. І ўсё ж незадавальненне пільнай чытачкі райгазеты выклікаў не сам гэты факт, а тое, што смецце выносілася ў агульную кучу на... чырвоным сцягу з сярпом і молатам. Праўда, каб не нашкодзіць настаўніцы, якая арганізавала працу ў гарпарку, аўтапаарка ліста не назвала ні яе імя, ні нумара школы, дзе тая працавала. Але ў маленькім мястэчку, дзе ўсяго 5 школ, тайнай гэта не засталося. Неўзабаве «вертыкаль» ужо дакладна ведала ўсё пра «провинившегося» педагога, які так непачціва паставіўся да нашага нядаўняга «камуністычнага» мінулага. А трэба заўважыць,што ў мястэчку жаданы для чыноўнікаў, у большасці сваёй былых работнікаў райкама партыі, чырвона-зялёны савецкі сцяг на галоўнай плошчы ўзвіўся раней, чым у Мінску. Але вернемся да падзеі. У 30-я гады за падобны ўчынак настаўніку, якога, як піць даць, прызналі б «ворагам народа», пагражаў бы не толькі імгненны арышт, але, магчыма, і расстрэл. Сёння ідэалагічныя цэрберы абмежаваліся разборкай. Па горадзе папаўзлі чуткі аб звальненні з працы непатрыятычна настроенай выкладчыцы. У ходзе «вертыкальнай» разборкі дасталося многім. «Чорная» пляма лягла на раней перадавую ва ўсіх адносінах школьную установу. Нямала слёз, перажыванняў і страху прыйшлося на долю настаўніцы. Яе з пасады ўсё ж не звольнілі, але «перавыхавалі» добра. Застрашаная і зняверaная, яна наўрад ці здолее навучыць сваіх дзетак-школьнікаў любіць наш беларускі край, шанаваць яго слаўную гісторыю, паважаць матчыну мову.

## Каму закон няпісаны

Райцэнтр рыхтаваўся прыняць удзельнікаў і гасцей народнага фестывалю музыкі. Спешна клалі асфальт, фарбавалі хаты ў цэнтры, завяршалі рэстаўрацыю вадзянога млына, які павінен быў пертварыцца ў Дом рамёстваў. А тут нечакана прарвала водаправод. Ды ў самым цэнтры. Каб хутчэй ліквідаваць аварыю, выкапалі вялікі катлаван, рух перакрылі, паставіўшы невялічкі плот з забараняльнымі знакамі, маўляў, едзьце ў аб`езд.

У гэты час я ішоў па пустому цэнтральнаму «праспекту». На вялікай хуткасці мяне абагнала яўна начальніцкая «Волга» і, не зважаючы на каманду афіцэра ДАІ спыніцца, паімчала далей. Праўда, праехаўшы метраў сто, спынілася, заднім ходам вярнулася да міліцыянера. Думаеце каб павініцца? Зусім не. Я пачуў, як вадзіцель нейкага чыноўніка з Мінска, патлумачыў ДАІсту, што яны ўпершыню ў горадзе, што не ведаюць як праехаць да райвыканкама, што вельмі спяшаюцца, каб заспець на працы супрацоўніка мясцовай улады. Такое тлумачэнне «задаволіла» міліцыянера і ён падказаў як мінуць забаронены знак, не аб`язджаючы яго па іншых вуліцах. У душы ён хутчэй за ўсё злаваўся на гэтае начальства, якому дазволена рабіць на нашых дарогах усё. Паспрабуй запатрабаваць з такіх парушальнікаў правы -- бяды не абярэшся і можаш лёгка паляцець з пасады...

Праз нейкі час афіцэр спрабаваў спыніць другую аўтамашыну, якая не звяртала ўвагі на забараняльны знак, але і яе вымушаны быў прапусціць, бо за рулём сядзеў міліцэйскі маёр. Ён таксама «шышка» для ДАІста, якая не жадае ехаць у аб`езд і паліць лішняе паліва...

У Германіі, да прыкладу, паліцыянт можа аштрафаваць за парушэнне міністра і таго прымусяць пайсці ў адстаўку. У цывілізаваных краінах, у адрозненне ад нашай «дэмакратыі», закон аднолькавы для ўсіх: і для селяніна-бюргера, і для прэзідэнта. Толькі ў нас усё больш тых, для каго закон няпісаны.

## Забароненыя колеры

Мой сусед вярнуўся пасля святочнай нядзельнай імшы ў храме яўна абураны. Неўзабаве ў наш гарадскі касцёл павінна была прыбыць копія славутай у свеце фігуркі Божай Маці Фацімскай. Другі год падарожнічае яна па каталіцкіх прыходах Беларусі і ўсюды людзі сустракаюць святыню годна і ўрачыста, са слязьмі і кветкамі, няхай сціпла, але прыгожа. Але сёлета святар папярэдзіў прыхаджан, каб ні ў якім разе ні ў адзенні, ні ў сцягах, ні ў стужачках і нават у кветках не прысутнічаў белы і чырвоны колер. Я спачатку не паверыў у гэты забарон, аднёс іх да самадзейнасці мясцовых улад. Аказалася, трэба глядзець глыбей, у «корань».

Крыху пазней я завітаў на радзіму і ў касцёле пачуў аналагічную просьбу святара. Яе патлумачылі тым, што ўмову абмежаваць бел-чырвоны колер па краіне быў вымушаны прыняць ад улад Беларусі каталіцкі кіраўнік, кардынал К. Свёнтак. На маёй радзіме людзі паслухмяныя і такой «крамолы» колернай не дапусцяць. Да таго ж, у гісторыі іх адроджанай святыні ўжо быў падобны факт. У касцёле раней была заўважана забароненая цяпер сімволіка. Паплаціўся за гэта святар, якога абвінавацілі ў агітацыйнай дзейнасці: нібыта ён заклікаў прыхаджан на рэферэндуме галасаваць супраць СССР; быццам вучыў дзетак рэлігіі ў школе без дазволу ўлад; быццам ён стварыў раённае аддзяленне Саюза палякаў. На маладога святара пачасціліся нападкі «ідэолагаў», яго выклікалі ў міліцыю і пракуратуру. Ён вымушаны быў пакінуць радзіму сваіх бацькоў, выехаць у Расію і стаць пробашчам касцёла ў Санкт-Пецярбургу. А наконт «ультыматума» прыхаджанам можна сказаць наступнае: калі нават у кветках, стужках і адзенні белага і чырвонага колеру Некаму бачацца «ворагі», то гэтаму Некаму засталося ўладарыць нядоўга.

## «Кансенсус» на лясной дарозе

Гэтае незвычайнае сутыкненне адбылося позним вечарам на дарозе ў калгасным лесе. Адсюль, папярэдне дамовіўшыся з леснікам, вёз нарыхтаваныя на зіму дровы мясцовы механізатар. Быў ён крыху на падпітку, але ехаў па няроўнай дарозе паволі, асцярожна. Адна «жывая» фара ледзь-ледзь асвятляла дарогу і раптам...На спуску, перад выездам з лесу, прама перад трактарам выскачыла іншамарка кіраўніка гаспадаркі. У механізатара сэрца заскочыла ў пяткі: дровы без дакумента вязе, выпіўшы, трактар даўно ў гаражы павінен стаяць...

Вялікага сутыкнення, на шчасце, не адбылося, як не адбылося і вялікай разборкі, бо старшыня сам не вельмі ўпэўнена трымаў руль. Да таго ж у салоне яго машыны сядзела не жонка і нават не падначаленая з канторы, а мілая і гарачая ў абдымках знаёмая медычка. Пра іх сустрэчы ўжо ішлі пагалоскі, а тут відавочны доказ сувязі палюбоўнікаў. Гэта і выратавала трактарыста.

Грозны начальнік і падначалены выйшлі насустрач адзін аднаму. Паблажліва-вінаватым голасам кіраўнік сказаў: "Дамовімся так, Пятро: ні ты мяне , ні я цябе ў лесе не бачыў. Выпішу яшчэ прычэп дроў у канторы і прывязеш іх у бліжэйшы выхадны. Машыну я адрамантую сам, але і ты трымай язык за зубамі».На тым і разышліся. Толькі, відаць, у паджылога трактарыста ў роце не засталося ніводнага зуба і языку не было за што трымацца: разнеслася «тайна» па ўсёй ваколіцы, павісла на языках мясцовых жанчын. А калі сур`ёзна, то ці можа што-небудзь « важнае» застацца непрыкметным у вёсцы, дзе ўсе і ўсё адзін пра аднаго ведаюць?

*У.Раманчук*

# Камітэт салдацкіх маці за небяспечную службу

У г. Докшыцы жыве Валянціна Сямёнаўна Карастылёва, адна з ініцыятарак стварэння абласнога Камітэта салдацкіх маці. Сёння яна ўзначальвае Докшыцкі раённы камітэт салдацкіх маці, вядзе актыўную работу ў рэспубліканскім Камітэце. Гэтая жаночая арганізацыя не цураецца шматграннага грамадскага жыцця. Дапамагае маці вырашыць іх праблемы і рабіць усё, каб хлопцы, нашы сыны, не гінулі ў мірны час, каб імёны і прозвішчы загінуўшых не ляжалі пад грыфам «сакрэтна», каб пра іх трагічны лёс ведалі ўсе, хто жыве сёння.



Працуе прызыўная камісія. Фота А. Ліціна

Думка арганізаваць Камітэт салдацкіх маці прыйшла Валянціне Сямёнаўне пасля трагедыі з яе сынам. Адзіны, дарагі мацярынскаму сэрцу сын Ігар пайшоў у армію, яшчэ ў савецкі час. Вучэбку праходзіў на Далёкім Усходзе. Апошнюю паштоўку ён адрасаваў родным загадзя, бо пошта з Далёкага Усходу ў Беларусь ішла доўга. 2 красавіка Ігара не стала. За пятнаццаць хвілін да пад`ёма Ігар сказаў днявальнаму, што ідзе ў туалет. Праз дзве гадзіны яго знайшлі за агароджай ваеннай часткі, у 115-ці метрах ад туалета, у сопках... павешаным. Восем год спатрэбілася Валянціне Сямёнаўне, каб даказаць, што яе сын не самазабойца, што ён загінуў «пры выкананні абавязкаў тэрміновай службы ў мірны час».

Паездкі, сустрэчы, доказы, патрабаванні... Год не пашкадавала маці, каб апраўдаць добрае імя свайго любімага сыночка. Восем год барацьбы за справядлівасць прынеслі вынік. Мацярынская любоў і настойлівасць змаглі перамагчы бюракратычныя перашкоды, даказаць іншым жанчынам, што за правы быць маці, за правы абараняць сваіх дзяцей трэба змагацца.

Сёння Камітэт салдацкіх маці па рэспубліцы аб'ядноўвае 7 тысяч удзельніц, а гэта -- моцная сіла. Па ініцыятыве Докшыцкага Камітэта летась у горадзе пасаджана алея памяці--колькасць дрэўцаў адпавядае колькасці загінуўшых у мірны час хлопцаў з Докшыцкага раёна, пачынаючы з 1945 года. Лічбы страшныя: 29 чалавек загінулі пры выкананні службовага абавязку ў розных кропках Савецкага Саюза, 15 -- пры праходжанні тэрміновай службы. Сярод загінуўшых чатыры прапаршчыкі і чатыры капітаны. І гэта толькі ў адным раёне...

Сёння Камітэт салдацкіх маці прапануе ўраду прыняць закон, які б дазваляў альтэрнатыўную службу. Маці выступаюць за паляпшэнне ўмоў службы, выкараненне «дзедаўшчыны» і іншых негатыўных з`яў; яны -- за бяспечную службу, якая б не прыносіла гора і слёз у беларускія сем`і.

*А. Ганчарык, Докшыцкі раён*

# Служба быту просіць паратунку

**З усіх падраздзяленняў Мёрскага райбыткамбіната лепш за іншых да апошняга часу трымаліся толькі фотаатэлье і жаночая цырульня.**

Калі чароўных дам у райцэнтры абслугоўваюць некалькі прыватных майстроў, то для мужчын падстрыгчыся -- праблема. У дзяржаўных цырульнях неабходны інструмент састарэў і зламаўся. З-за фіксаваных тарыфаў амаль усе з 17 відаў аказваемых райбыткамбінатам паслуг аказаліся стратнымі і паставілі працоўны калектыў на мяжу выжывання. Большасць работнікаў не мае ніякага жадання працаваць у гэтай сістэме за 6-14 тысяч рублёў у месяц. Толькі ў маі з камбіната звольніліся адразу дзесяць спецыялістаў. А з пачатку года, стаміўшыся чакаць перамен да лепшага, падаліся шукаць іншыя заробкі 35 чалавек, а гэта ледзь не трэцяя частка былога спраўнага калектыву.

*Уладзімір Шык*

**Думкі з нагоды**

# І закружыў белай птушкай баль

24 чэрвеня выпускнікі 2000 года Шаркоўшчынскай сярэдняй школы №1 прыйшлі на свой апошні развітальны баль. 89 маладых, і асабліва прыгожых у гэты дзень, юнакоў і дзяўчатак, атрымалі атэстаты аб сярэдняй адукацыі. Святочнае ўбранне залы, прыўзняты настрой прысутных, шчырыя святочныя віншаванні і пажаданні выпускнікам, настаўнікам , бацькам -- традыцыйная прыкмета выпускнога балю. Сцены школы пакідалі чатыры класы: матэматычны, гуманітарны, руска і беларускамоўны. Было ўручана чатыры залатыя і тры сярэбраныя медалі і 15 грамат за асаблівыя поспехі ў вывучэнні прадметаў. Цікавы, запамінальны сцэнарый, успаміны аб школьных падзеях, якія адбываліся на працягу вучобы ў школе, аб доўгіх адзінаццаці гадах, якія так хутка праляцелі, слёзы і смех, і чаканне невядомага, хочацца спадзявацца шчаслівага будучага для гэтых маладых людзей -- усё гэта было, адчувалася, перажывалася на выпускным вечары. Але...

На выпускным вечары не прагучала ніводнага слова на беларускай мове, за выключэннем тых, якія гучаць аднолькава і на рускай, і на беларускай мовах. Нават да настаўніцы беларускай мовы са словамі ўдзячнасці вучні звярталіся на рускай мове, між тым да выкладчыкаў замежных моў звярталіся на мовах вывучаемага прадмета: на нямецкай і англійскай. Самае крыўднае, што сама настаўніца роднай беларускай мовы жадала вучням шчаслівага лёсу на рускай мове!!! З 15- ці пахвальных грамат толькі адна вучаніца, Собаль Марына (не з беларускамоўнага класа), атрымала грамату за асаблівыя поспехі ў вывучэнні роднай мовы. Аб тым, што школа выпускае беларускамоўны клас, не ўспомніў ніхто, і я зацікавілася яго лёсам.

Ён быў набраны 11 гадоў назад. Вучыла дзяцей маладая, таленавітая настаўніца Марыя Аляксандраўна Зайцава. І пакуль у краіне не быў прыняты агульнавядомы «закон аб мовах», дзеці вучыліся па-беларуску. Вучыліся ахвотна, з цікавасцю, паспяхова засвойваючы навучальную праграму. Але памянёны закон перамяніў усё. Аб зменах мне расказалі самі дзеці, сённяшнія выпускнікі. Здольных дзяцей перавялі ў «прывілеяваныя», так сказаў адзін хлопчык, рускамоўныя класы, а слабейшых спіхнулі ў беларускамоўны. Больш таго, калі ў «гуманітарным» ці «матэматычным» класах хтосьці з дзяцей падленьваўся ці парушаў дысцыпліну, настаўнікі пагражалі пераводам у беларускамоўны клас?!! Аб гэтым мне расказалі таксама дзеці. Я не называю іх прозвішчы, бо яны самі прасілі мяне аб гэтым. Прычына зразумелая: у гэтай школе вучацца (ці яшчэ будуць вучыцца) іх браты і сёстры. І яшчэ. Калі фарміравалі рускамоўны клас, дзяцей папрасілі, каб яны ад імя сваіх бацькоў напісалі заявы на перавод і падпісаліся за іх. Што дзецям сказалі, тое яны і зрабілі. Бацькі нават не ведалі пра гэта.




Ну а «поспехі» ў вывучэнні беларускай мовы ў гэтым класе такія: з 18-ці вучняў адзін хлопчык не здаў экзамен па матэматыцы і атэстата не атрымаў. У час выпускнога балю ён быў на могілках у бацькі, бо ён сірата. Ён таксама вінаваты ў тым, што не змог здаць экзамен, але ў першую чаргу гэты «брак» -- віна школы. З 17 вучняў толькі чацвёра здалі пісьмовы экзамен па беларускай мове на «4», астатнія -- на тройкі. Вусны экзамен па беларускай літаратуры выключна ўсе на «тры», нават тыя, хто на працягу вучобы меў «4» і «5». Каментарый з нагоды такой «паспяховасці» ў вывучэнні роднай мовы беларускамоўным класам не патрэбен. А я ўсё ж не веру, што ніхто з дзяцей не ведае мовы. Я размаўляла з імі па беларуску і яны добра адказвалі мне на ёй. І ўсе, як адзін, падкрэслівалі, што іх беларускамоўны клас быў самы нелюбімы ў школе. «Мы адчувалі сябе ізгоямі»,-- так сказала адна дзяўчынка. -- Нас не любіў нават наш класны кіраўнік».

Асабліва цяжка было дзецям, якія ў «гуманітарны» або «матэматычны» клас Шаркоўшчынскай школы прыйшлі з сельскіх базавых школ. Да 10-га класа ўсе прадметы яны вучылі на роднай мове і калі атрымалі рускія падручнікі, проста не разумелі многіх тэрмінаў. Пакуль прызвычаіліся -- адсталі. І ў выніку, маючы добрыя адзнакі за базавую школу, яны з цяжкасцю засвойвалі прадмет у 10-11 класах. Наогул, паспяховасць у беларускамоўным класе нават па роднай мове была найгоршая.

Усё гэта ведалі бацькі і ніхто з іх зараз не згадзіцца аддаць сваё дзіця ў беларускамоўны клас. Бачачы абыякавасць настаўнікаў да роднай мовы, дзеці самі не захочуць вучыцца ў класе, якім іх пужаюць.

І яшчэ цікавая акалічнасць. На апошні званок быў зроблены «гараскоп» для дзяцей з беларускамоўнага класа. Некаторыя «прадказанні» ў ім проста абражалі дзяцей.

Вось такі сумны лёс беларускамоўнага класа выпуску 2000 года ў Шаркоўшчынскай школе №1.

І ў дадатак. На выпускны баль бацькі збіралі па 8 тысяч з чалавека на падарункі настаўнікам і на «салодкі» стол. Для некаторых сямей такая сума аказалася «непад`ёмнай» і дзеці з такіх сямей на тым стале не павінны былі прысутнічаць. Праўда, ў апошні момант дзяцей усё ж запрасілі на той стол самі аднакласнікі. Але пайшлі не ўсе. Я бачыла сум і крыўду ў вачах дзяўчынкі з 11 «В», калі яна, атрымаўшы атэстат, адразу ж пайшла дадому. Для яе апошні школьны баль запомніцца горыччу адлучэння ад сяброў і равеснікаў, ад роднага школьнага калектыву. Але ж яна не вінавата, што яе бацькам-калгаснікам не выплочваюць заробак па тры месяцы, і сям`я знаходзіцца за мяжой галоты. Спадзяюся, што ў школе больш не дапусцяць такога «вылучэння» і тады не прыйдзецца зневажаць гонар тых, хто не можа выкласці вялікую суму.

І ў заключэнне... Я звяртаюся да вас, выпускнікі беларускамоўнага класа! Будзьце мужнымі, вучыцеся і далей на роднай мове. Радзіма ў нас адна -- Беларусь. І вы не «ізгоі», а такія ж добрыя і разумныя дзеці, як і вашы равеснікі з «прывілеяваных» класаў. Ваша шчасце абавязкова сустрэне вас!

**С. Тарноўская**

**Гісторыя далёкая і блізкая**

# Мне няма ў чым каяцца



**Алеся Лявонаўна Фурс /Умпіровіч/. Актыўны ўдзельнік беларускага пасляваеннага адраджэнскага руху. Палітычны вязень сталінскага ГУЛАГу. Нарадзілася ў 1926 годзе ў шматдзетнай сям`і на Браслаўшчыне. У гады вайны вучылася ў Пастаўскай настаўніцкай семінарыі, якую пасля вызвалення ператварылі ў педвучылішча. Там вясной 1946 года ўступае ў маладзёжную арганізацыю «За Беларусь», якая далучылася да аднадумцаў з глыбоцкага педвучылішча і супольна заснавала Саюз Беларускіх Патрыётаў. За сшыты для СПБ бел-чырвона-белы сцяг і намаляваную «Пагоню» пасля арышту ў 1948 годзе асуджана на 25 гадоў лагера з 5-гадовым тэрмінам пазбаўлення правоў.**

**За неданясенне на дачку ваенным трыбуналам быў асуджаны і яе бацька Лявон Умпіровіч. Сама ж Алеся Лявонаўна прайшла праз катаванні і нечалавечыя выпрабаванні, цудам засталася жыць пасля цяжкай хваробы. Пасля вызвалення ў 1956 годзе, разам з мужам Антонам Фурсам, які быў адным з кіраўнікоў СПБ, засталася жыць у Казахстане. У 1965 годзе скончыла Маскоўскі народны універсітэт мастацтваў, працавала мастакомафарміцелем у кінатэатры. Пасля выхаду на пенсію, у 1982 годзе з сям`ёй вярнулася на Беларусь. Поўнасцю рэабілітавана, як і астатнія члены арганізацыі, у 1992 годзе за адсутнасцю складу злачынства. Брала ўдзел у напісанні кнігі «Гарт», апублікавала шэраг артыкулаў аб перажытым у газетах «Народнае слова», «Белеруская маладзёжная», «Наша слова», часопісах «Полымя», «Спадчына» і шэрагу іншых выданняў. Зараз жыве ў Паставах, піша карціны.**

**Кар:** *Алеся Лявонаўна, прызнаюся, пры нашай першай сустрэчы я быў зачараваны Вашай пявучай чысцюткай беларускай гаворкай. Адкуль у вас такое моцнае пачуццё шчырай і адданай любові да мовы, да бацькаўшчыны, за якое Вы рашыліся расплаціцца лепшымі маладымі гадамі?*

**А. Фурс:** Мой бацька меў прафесію настаўніка, «за царом» нейкі час працаваў у школе, а пры паляках яе пакінуў. Не пажадаў атэставацца ў Вільні, каб затым выкладаць у польскай школе. Ён любіў дзяцей і ўмеў з імі абыходзіцца, быў шчырым, спагадлівым да людзей, працаваў на сваёй зямлі, часам зарабляў на сплаве лесу. З ранняга дзяцінства ў сям`і мяне ахінала атмасфера беларускасці, замілавання да роднай хаты, да вёскі. У самой назве «Азярава» мне чулася штосьці мілае, добрае. Дом наш стаяў амаль пасярэдзіне вёскі, патанаў у зеляніне. Недалёка ад нас, ля ракі Дзісненкі, жыў славуты садавод Сікора, ягоныя саджанцы квітнелі ў садах маіх землякоў. А якія прыгожыя, задушэўныя беларускія песні спявалі нашы хлопцы і дзяўчаты!

А вось паліцыянты-палякі абы дзе пачулі іх -- адразу забаранялі, загадвалі змоўкнуць. Змалку мяне здзіўляла тое, што наша роднае, тыя ж песні, некаму могуць быць не даспадобы. А вось аматарскі спектакль па купалаўскай «Паўлінцы», які паставіла ў вёсцы моладзь, застаўся ў памяці яркім, незабыўным святам на ўсё жыццё. Выхоўвалі мяне набожнай дзяўчынкай. Мне вельмі хацелася стаць настаўніцай, таму вучылася я з вялікай ахвотай. З захапленнем спасцігала гісторыю Полацкага і Вялікага Княства Літоўскага. Ужо ў семінарыі мы гатовы былі прысвяціць сваё жыццё служэнню роднай бацькаўшчыне, верылі, што скончыцца вайна і Беларусь паўстане самастойнай і незалежнай краінай.

**Кар:** *Па гэтай прычыне, відаць, Вы ўступілі ў 43-м годзе ў шэрагі Саюза Беларускай Моладзі, які цяперашнія ўлады лічаць прафашысцкім, нацыяналістычным?*

**А. Фурс:** Бяда нашага грамадства ў тым, што часам наша нядаўняя гісторыя падаецца аднабакова, тэндэцыйна. Наша арганізацыя напачатку 1944 года налічвала 12500 нацыянальна свядомых юнакоў і дзяўчат, падзеленых на тры ўзроставыя групы ад 10 да 20 гадоў. Нашы студэнты з прыязню сустрэлі вестку аб стварэнні СБМ і потым ахвотна насілі эсбээмаўскую форму, хоць і бедную, пашытую з таннай тканіны. Нам вельмі падабаўся наш дэвіз: «Жыве Беларусь!».Мы маршыравалі ў калонах па вуліцах Пастаў, спявалі беларускія песні, ладзілі канцэрты, збіралі сродкі для мясцовага інтэрната для дзяцей і сірот вайны. Асабіста я і мае сябры ўспрымалі СБМ, як асяродак, у якім гартаваліся патрыятычныя пачуцці, любоў да роднага беларускага і рыхтаваліся служыць не немцам, не якому чужому дзядзьку, а свайму народу.

За сяброўства ў СБМ пасля вайны судзілі, давалі вялікія тэрміны зняволення. Вялікімі злачынствамі лічыліліся нацыянальныя імпрэзы, вечарыны, сходы, канцэрты ў народным доме, дзе мы, эсбээмаўкі, выразалі з кардону квадраты, каб скласці ўзор беларускага арнаменту. Адзінае, што істотна адрознівала Статут і прынцыпы дзейнасці суполак СБМ ад піянерска-камсамольскіх арганізацый, дык гэта тое, што яны рабілі ўпор на нацыянальныя беларускія традыцыі. За нашай дзейнасцю пільна сачылі і акупацыйныя ўлады.

**Кар:** *Але за радасцю вызвалення ад нямецкай нядолі хутка прыйшлі вялікія непрыемнасці і жорсткія выпрабаванні...*

**А. Фурс:** Дырэктар нашага педвучылішча, куды мяне адразу залічылі на апошні курс, нядаўні партызан Фішкін на першым жа сходзе недвухсэнсоўна заявіў, што сярод нас зацёрліся ворагі. Не прайшло і месяца, як нам далі зразумець, што вучыць нас будуць толькі па-расейску і адказваць на занятках па-беларуску не дадуць, а калі хто не паслухаецца, будуць зніжаць адзнакі. Рабілася гэта для таго, каб мы за роднай мовай не хавалі быццам бы дрэнныя веды. Гвалт над намі і новыя пагрозы Фішкіна: «***Фашисты! Националисты! Не я буду, если вас не разгоню!***» выклікалі ў нас крыўду, абвастралі памкненне процістаяць русіфікацыі. І мы гуртаваліся. У кабінетах МГБ ведалі, што мой брат Мікола быў у партызанах і мне некалькі разоў прапаноўвалі супрацоўнічаць з органамі, прасцей кажучы, стаць даносчыцай.

Мая адмова абяцала арышт і родныя параілі схавацца, каб потым выехаць у Польшчу. Былых сяброў нашай суполкі СБМ пачалі арыштоўваць, а хлопцаў бралі нават з арміі, куды іх прызывалі. Каля трох гадоў я жыла у знаёмых, прыхільных да сям`і людзей, жыла ў вечным страху. Аднак, без вагання падтрымала прапанову сяброў з вучылішча аб уступленні ў маладзёжную групу «За Радзіму».

Як зараз памятаю: 25 сакавіка 1946 года, у Дзень незалежнасці Беларусі, у вёсцы Рамелькі пад Паставамі для адводу вачэй зладзілі вечарыну і на ёй, перад выявай «Пагоні» і нацыянальным сцягам, мы адзін за адным чыталі прысягу сябра СБП на вернасць Беларусі і яе народу і распісваліся ў падмацаванне узятай клятвы. Затым нашы подпісы і намаляваная мной «Пагоня» былі захоплены энкаведыстамі і паслужылі доказамі быццам бы нашай антысавецкай дзейнасці.

**Кар:** *Алеся Лявонаўна, мне цяжка пытацца ў Вас пра турэмныя краты, жыццё і катаржную працу ў лагерах. Але пра што часцей за ўсё ўзгадваецца?*

**А. Фурс:** Мой лагерны нумар Х-252, які я мусіла насіць, як і іншыя палітычныя зняволеныя. Яго вытруцілі хлоркай на рукаве чорнай картовай сукенкі. Такі ж самы нумар быў на падале спераду, з левага боку, і на белай хустцы, адзначаны чорнай фарбай. І таблічка з той самай лічбай на нарах, побач з артыкулам, па якім выносілі прысуд і тэрмін.

А яшчэ успамінаюцца людзі-садысты. І ўсё ж большасць былі добрыя і светлыя душой. Мне пашанцавала пазнаёміцца і пасябраваць з цудоўнымі людзьмі. Ім, любячым свабоду, праўду і сумленне, любы таталітарны рэжым быў не сімпатычны. Усякая дыктатура імкнецца такіх людзей знішчыць. Наша сяброўства з многімі і дасюль моцнае, але асобна адзначу двух паэтак -- украінку Любу Вазняк і нашу слынную Ларысу Геніюш. Яны, як і мы, сядзелі за любоў да сваёй Бацькаўшчыны, за тое, што клапаціліся аб роднай мове, гісторыі, аб самабытнасці краін-суседак. З Ларысай Антонаўнай аж да ейнай смерці сябравалі, бывалі адна ў адной у гасцях.

**Кар:** *Больш за чвэрць стагоддзя Ваша сям`я пасля датэрміновага вызвалення пражыла на Казахскай зямлі. Як бы Вы ахарактарызавалі тагачаснае жыццё?*

**А. Фурс:** Ведаеце, кляймо «ворага народа» прымусіла многіх былых палітвязняў пастаўска-глыбоцкага СБП (а асуджаны былі 43 сябры арганізацыі) шукаць кавалак хлеба не на радзіме, а ў далёкім Казахстане, дзе адбываў тэрмін і мой Антон. Там у нас з`явілася дачушка Людачка, а потым сынок Юрась. Жылі сярод рускіх, украінцаў, беларусаў, эстонцаў, яўрэяў і іншых, каго перамяшаў ГУЛАГ у гэтых мясцінах. Усё ў нас было, як у іншых людзей, але моцна не ставала роднай Беларусі і часцяком падкочвалася пад сэрца туга.

Казахскі народ таксама цярпеў ад бальшавіцкага рэжыму, як і мой, беларускі. Я неаднойчы пераконвалася наколькі лжыва выстаўлялі Казахстан ідыілізаваным узорам сужыцця народаў. Карэннае насельніцтва, яго мова, культура, былі прыкладна ў такім самым становішчы, як і на Беларусі. У горадзе шахцёраў Навадолінску, куды мы прыехалі, школы былі толькі рускія. Казахская мова не выкладалася быццам бы з-за адсутнасці настаўнікаў і з-за нежадання бацькоў. Мы ж хацелі, каб нашы дзеці разумелі мову народа, які даў нам прытулак. Хоць ім выпала нарадзіцца ў Казахстане, радзімай для іх стала Беларусь. Яны зразумелі і падтрымалі наш учынак у маладосці.

**Кар:** *Яшчэ нядаўна тое, аб чым Вы марылі ў маладосці пачало збывацца: Беларусь зрабіла першыя крокі на шляху адраджэння. Але хутка ўсё змянілася: наша краіна можа зноў згубіцца на бяскрайніх расійскіх прасторах. Няўжо ўсё так безнадзейна, а беларускай нацыі зноў наканаваны незайдросны лёс?*

**А. Фурс:** Часта і нас агортваюць трывога і роспач, што дзяржаву цягнуць у штучны, нераўнапраўны Саюз, а большая частка братоўбеларусаў залішне флегматычная, апатычна ўспрымае працэс так званай расійскабеларускай інтэграцыі. Веру, што Беларусь яшчэ паўстане сваёй веліччу, але, я падзяляю думку слыннага земляка з замежжа, акадэміка астранаўтыкі ЗША, **вынаходніка паліва для касмічных караблёў Барыса Кіта, які калісьці ўзначальваў Пастаўскую педвучэльню,** для гэтага патрэбен час. На Беларусі змена сістэмы і набыццё незалежнасці прайшлі вельмі лёгка і, на шчасце, без праліцця крыві. Ва ўладзе на ўсіх узроўнях засталіся тыя самыя людзі, а прэзідэнт абапіраецца на тых, хто не паважае ўсё беларускае, хто думае старымі катэгорыямі. Такіх людзей яшчэ шмат і таму адбылося вяртанне ў дзень учарашні.

Цешыць толькі тое, што раней нас была жменька, а цяпер патрыётаў шмат. Праз асвету, нацыянальную школу, універсітэт здолеем палепшыць сітуацыю ў Беларусі, даб`ёмся таго, каб нас паважалі ў свеце, як тую ж Польшчу, Літву, Латвію.

**Кар:** *Алеся Лявонаўна, Вы шмат перажылі і адпакутвалі у сваім жыцці, былі адарваныя ад радзімы. Ці не ўзнікала адчуванне, што можна было пражыць лягчэй, выбраць іншы шлях?*

**А. Фурс:** Мне шкада тых, хто раўнадушны да бацькаўшчыны, каму абыякавы лёс Беларусі, каму не баліць за нацыю. Калі я вярнулася з няволі, многія мае знаёмыя пры сустрэчы не віталіся, адварочваліся, пераходзілі на другі бок вуліцы. Цяжка такое бачыць... Мой тата памёр дачасна ў мінскай турме, аднак, мяне разумеў і падтрымліваў. Многія родныя і блізкія, суседзі і знаёмыя разумелі, што нас пасадзілі ў турму без віны. Мы ж хацелі толькі добра, свабоды і росквіту Беларусі, хацелі несці гэтыя ідэі да шырокіх мас, а гэтага таталітарны рэжым не дазваляў, як і зараз. Дачка Людміла і сын, яшчэ будучы дзецьмі, усё ведалі пра нас, мы нічога ад іх не ўтойвалі. І яны, як і цяпер унукі Антосік і Крысцінка, не цураюцца нас і роднага беларускага. Дачка Людміла жыве ў Наваполацку, яна -- эканаміст. Сын Юрась скончыў агратэхнічны універсітэт, захапляецца мастацкай коўкай, удзельнічае у прэстыжных выставах работ кавалёў, нядаўна пабудаваў сабе дом.

Так склаўся лёс, што мне адной з усіх эсбээмавак адмерылі найбольшы тэрмін зняволення. Не паспела як след за гады пакут расквітнець мая маладосць, але ні я, ні адзін з чатырох дзесяткаў нашых сяброў не шкадавалі і не шкадуем, што пайшлі такім шляхам, не губляем веры ў годную будучыню Айчыны. Толькі шкада, што здароўе і сілы ўжо не тыя, а равеснікаў-аднадумцаў усё меней і меней.

**Гутарыў Уладзімір Шык.**

 **Уладзімір Шык,**
*Паставы*

## 3. Перамены, якіх жадалі

**Пад час знаходжання ў суседняй краіне ўражвала многае. Разбягаліся вочы ад колькасці выдатных сучасных магазінаў, супермаркетаў, аўтазаправачных станцый,утульных атэляў, бараў, рэстаранаў і кафэ. Аднак, самае прыемнае адкрыццё нават не ў выдатнай якасці многіх тысяч найменняў тавараў і паслуг і не ў прымальных для літоўцаў цэнах.**

У адрозненне ад нас, у сферы паслуг і гандлі там працуюць зусім іншыя людзі. Маладыя, энергічныя, якія добра ведаюць мовы, прыветлівыя і добразычлівыя да кожнага наведвальніка.

Памятаю, за савецкім часам тых, хто гаварыў па-руску, тут не любілі, абслугоўвалі з непрыкметным халадком, што не магло не шакіраваць. Але жалезнае правіла, якое дзейнічае ва ўсёй Еўропе «кліент заўсёды жаданы госць», дзейнічае ў маладой краіне бездакорна. Гэтаму садзейнічае прынцып канкурэнцыі, бо недахопу ў фірмах-сапернікаў тут няма. Толькі глядзі і думай, каб у барацьбе за кліента цябе не абышоў твой канкурэнт. У дадатак, перашкод для людзей прадпрымальных і разваротлівых тут не ствараюць і не ўспрымаюць іх, як нашых прыватнікаў, як «вшивых блох» і жуллё.

Калі дзесяць гадоў назад рускі па нацыянальнасці Віктар Успаскіх толькі задумаў заняцца перапрацоўкай і гандлем сельгаспрадукцыі, ён доўга думаў, як заваяваць сваю нішу на рынку і прывабіць стрыманага ад прыроды і культурнага літоўскага пакупніка. Перад тым, як укласці зароблены грошы ў справу, правялі з сябрамі вялікую падрыхтоўчую працу, вывучылі вопыт у гэтым напрамку ў краінах заходняй Еўропы. Напярэдадні Каляд, у канцы 1993 года, ў горадзе Кедайняй адкрылі свой першы магазін, які поўнасцю адпавядае еўрапейскім стандартам. Абсталяванне для гандлёвага цэнтра прывезлі з-за мяжы, паколькі літоўцы патрэбнае ў сябе дома яшчэ не рабілі.

На той момант у фірме «Віконда» працавала 30 чалавек. Зараз у канцэрне занята больш 1100 работнікаў. Пачыналі з таго, што самі ездзілі па краіне ў пошуку пастаўшчыкоў і самі даставілі тавары. А зараз ад пастаўшчыкоў з многіх краін свету, якія пастаўляюць прадукты харчавання, ў галоўным офісе не зачыняюцца дзверы. Гадавы абарот «Віконды» з некалькіх тысяч літаў за гэты час вырас да 50 мільёнаў долараў.

Канцэрн «Віконда» вырашае галоўную задачу паўсядзённасці -- прапаноўвае пакупнікам як мага больш шырокую гаму экалагічна чыстых і танных тавараў. У асартыменце цяперашніх прадпрыемстваў фірмы і яе 25-ці гандлёвых цэнтраў у Каўнасе, Клайпедзе, Шаўляі, Панявежысе і іншых гарадах краіны прадукты і тавары 16 тысяч найменняў. Бульбу, садавіну, агародніну «Віконда» закупляе па дагаворах у мясцовых фермераў. Усе разлікі і бягучае аператыўнае кіраванне працай ажыццяўляецца з адзінага цэнтра пры дапамозе навейшай камп`ютарнай сістэмы. Усе падраздзяленні канцэрна і пабудаваныя механізаваныя склады вядомая фірма «Сіменс» аснасціла сучасным камп`ютэрным касава-банкаўскім абсталяваннем.

Фірма мае свой выдатны аўтапарк і прадукты кожнага віда перавозіць спецмашынамі, у якіх для кожнага прадукта забяспечваецца патрэбны тэмпературны рэжым. Еўрапейскія санітарна-гігіенічныя патрабаванні паўсюдна па Літве прад`яўляюцца не толькі да перавозак прадуктаў і тавараў, але і да іх захоўвання. Самае прыемнае, што людзі не чакаюць змен, а працуюць так, каб найхутчэй жыць так, як у Еўропе. Яшчэ ў 25-ці гарадах і раёнах краіны «Віконда» купіла ўчасткі пад будаўніцтва новых сваіх аб`ектаў. Сёлета яна адкрыла новы сучасны гандлёвы цэнтр, а да канца года плануе ў два і разы павялічыць аб`ёмы вытворчасці і гандлю. У падобным тэмпе развіваюцца



У Паланзе купальны сезон.

**По той бок мяжы**

# Ад Маскоўскіх каманд да еўрапейскіх стандартаў

*Працяг, пачатак у №№15-16 (47-48) за ліпень, 17-18 (49-50) жнівень 2000г.*

зараз многія прыватныя фірмы.

Адна з іх -- сталічная ЗАТ «Сноро лізінгас», якой пайшоў другі год. Сёння незразумелае раней слова «лізінг» усё часцей гучыць у паўсядзённым жыцці. У нас на Беларусі калгасам і саўгасам па такому прынцыпу выдзяляюць сельгастэхніку. Простыя літоўцы ў лізінг купляюць сабе тэлевізары, халадзільнікі, мікрахвалёвыя печы, відэакамеры і многія іншыя каштоўныя рэчы. У адрозненні ад продажы тавараў у растэрміноўку, лізінг не патрабуе ніякага дадатковага залогу.



Вільня. На фоне старажытных гатычных касцёлаў помнік Адаму Міцкевічу.

Кліентам кампаніі можа быць любы грамадзянін Літвы з пашпартам і прапіскай і нават асобы без грамадзянства з відам на жыхарства ў краіне. Лізінгавы дагавор афармляецца на працягу 10-ці хвілін, пасля таго, як прадаўцы, з дапамогай распрацаванай камп`ютэрнай сістэмы, ацэняць плацёжаздольнасць кліента. Тавары коштам да 1000 долараў прадаюцца па сучаснай онлайнавай тэхналогіі, калі кліент прыходзіць у краму, выбірае пакупку, падпісвае дагавор, аплачвае аванс і з упакаваным таварам едзе дамоў. На большыя сумы кампанія патрабуе ўжо дадатковыя даведкі аб заробках, у некаторых выпадках пры куплі тавараў да 1500 долараў задавальняецца гарантыя аплаты з боку іншай фізічнай асобы з пашпартам.

За ўвесь час свайго існавання толькі раз лізінгавая фірма звярнулася ў суд, паколькі былі сфабрыкаваны дакументы, падроблены подпісы на ўкрадзенай пячатцы адной кампаніі. Лізінгавая практыка задавальняе ўсіх, асабліва вытворцаў, якім патрэбна, як мага хутчэй і паболей, рэалізаваць сваёй прадукцыі. А людзям не трэба чакаць, пакуль яны збяруць грошы на дарагую пакупку. У адрозненне ад савецкіх часоў, літоўцы ўжо забыліся пра слова дэфіцыт, «дастаць па блату». Праўда, з пачаткам сезона летніх водпускаў упершыню за дзесяць гадоў незалежнасці не стала хапаць авіябілетаў на асобныя авіярэйсы. Але гэты «дэфіцыт» сведчыць аб фінансавых магчымасцях літоўцаў, якія ўжо могуць дазволіць сабе адпачынак у іншых краінах.

Не ўсім жадаючым у патрэбны час і дзень удаецца вылецець у Амстэрдам, Парыж, Маскву, Лондан, Франкфурт. Нацыянальная авіякампанія «Летувос авіялініес» хоць і мае адзін суперсучасны «Боінг-737-300», два «Боінгі-737-200» і чатыры лайнеры фірмы «Сааб», пра якія толькі мараць беларускія авіятары, але не можа справіцца з ростам пасажырапатоку. Гэта, аднак, зразумела, бо літоўцы, якія раней маглі пабываць у Беларусі ды Расіі, зараз, займеўшы магчымасць ездзіць па свету без візаў і абмежаванняў, імкнуцца гэты свет пабачыць.

Суседзі, у адрозненне ад беларусаў, усё актыўней імкнуцца адарвацца ад звыклай будзённасці жыцця і адпачыць у новых абставінах. Турыстычныя агенствы рады сёлетняму наплыву наведвальнікаў. Штодзённа, кожны месяц, толькі ў адной турфірме «Авіатурас ір партнерай» прадаецца да ста пуцёвак у розныя краіны свету. Для адпачынку жыхары Літвы апошнім часам выбіраюць курорты Турцыі, Іспаніі, Балгарыі, дзе заўсёды чыстае мора і цёплае надвор`е. Кошт пуцёўкі для іх невысокі -- ад 989 да 1290 літаў. Дзяцей у чэрвені можна было браць з сабою бясплатна. Калі сярэдняя зарплата ў краіне зараз складае 1060 літаў, такі адпачынак па кішэні большай частцы жыхароў рэспублікі.



Як прыемна адпачыць і перакусіць у цішы прыватнай кавярні!

Жыхары-гараджане з меншымі даходамі, якія не маюць уласных дач, яшчэ вясной пачалі заказваць сабе месцы на некалькі дзён ці тыдняў у летніх доміках, якія пачалі, як грыбы пасля спорнага дажджу, абляпілі ўзбярэжжы азёр. У прыватнасці, паблізу беларускай мяжы, на азёрах Аўкштайційскага нацыянальнага парку, амаль усе месцы выкуплены да канца лета. Цікавасць да створаных тут месцаў адпачынку сёлета праявілі турфірмы Масквы і Санкт-Пецярбурга, бо іх прывабілі цэны і ўзровень камфорту.

Умовы пражывання ля возера Лушыс адпавядаюць камфорту трохзоркавай гасцініцы. Пакоі з усімі зручнасцямі і выдатнай кухняй. Побач тэнісныя корты, більярдная, пракат веласіпедаў і ролікавых канькоў, іншага спартыўнага і турысцкага інвентару. Замежныя турысты, якіх за чатыры месяцы прыбыло ў Літву больш мільёна чалавек, з задавальненнем спыняюцца сярод ліцэнзаваных літоўскіх сядзіб, дзе прадпрымальныя людзі ўжо парабілі рэстараны на сто месцаў. Частуюць немцаў, шведаў, палякаў стравамі нацыянальнай кухні, прадукты ідуць свежыя, прама з агароду.

Па-добраму можна здзівіцца ўменню літоўцаў зарабляць грошы літаральна з нічога. Адзін з іх на паўвостраве Балуошас аднавіў хату рыбака мінулага стагоддзя, разгарнуў там музейную экспазіцыю і збірае з кожнай тургрупы за гадзіну прагляду 20літаў. Іншы прадпрымальнік у вёсцы Стрыпейкяй для адпачываючых стварыў музей пчалаводства, дзе ў кроне старога тапола, у адным з вулляў, за шклом, бачна ўся складаная праца пчалінай сям`і.

Многія базы адпачынку, напрыклад, у Тракаі, дзе мы начавалі, працуюць круглы год. Прызнацца, было вельмі здорава позна вечарам, пакупаўшыся ў чысцюткіх водах мясцовага возера, пайсці ў раздзявальню і прыняць там цёплы душ.

Год назад падобнае цуда цывілізацыі ўразіла мяне ў Швецыі. Толькі развёў рукамі, калі ўбачыў нешта падобнае ў маленькай Літве. На працягу 99-ці кіламетраў чыстае і прывабнае іх марское ўзбярэжжа з пясчанымі пляжамі і прыбрэжнымі дзюнамі.

Нацыянальны парк Куршскай касы прэтэндуе на ўключэнне ў спіс аб`ектаў сусветнага культурнага і прыроднага значэння ЮНЕСКА. Туды ўжо залічаны Стары горад у Вільні.

*(Працяг будзе)*

**Рэліквіі нашага краю**

# БЕРАЗВЕЦКІЯ БАЗЫЛЬЯНЕ

Мястэчка Беразвечча, якое у XX ст. дэградавала да статуса вёскі, а ў 60-я гады было паглынута горадам Глыбокае, упершыню згадваецца ў XIV ст. у грамаце знакамітага князя Андрэя Полацкага. Прадстаўнікі магнацкага роду Корсакаў Фёдар і Дзмітрый атрымалі, паводле гэтай граматы, у валоданне землі *«на Беразвячы»*. Вядома, што ў пачатку XVI ст., у Беразвеччы была праваслаўная царква, якая з'яўлялася месцам пахавання прадстаўнікоў роду Корсакаў. У 1519 г. яна была спалена маскоўскім войскам у час адной з «руска-літоўскіх» войнаў. У 1552 г. у мястэчку налічвалася 40 дамоў і 40 мяшчан, у 1870-ыя гады - 70 жыхароў.



**Велічны храм Пятра й Паўла не толькі ўпрыгожваў Глыбокае, але і быў помнікам дойлідства еўрапейскага значэння. Як сцвярджае старое паданне, горад будзе квітнець да тых часоў, пакуль будуць гучаць званы на гэтым храме... Адновім святыню!**

У XVII -- першай палове XIX ст. гэта гадлёвае мястэчка набыло шырокую вядомасць сваім базыльянскім кляштарам. На думку аўтара гэтых радкоў, Беразвечча знакамітае ў сваёй гісторыі двума рэчамі: 1) як буйны цэнтр уніяцтва ў XVIII - першай палове XIX ст., 2) сваёй турмой і лагерам смерці ў XX ст. Дзякуючы першай дастапамятнасці, Беразвечча ўвайшло ў кнігі па гісторыі, адукацыі, мастацтва, рэлігіі, у каталогі архітэктурных помнікаў. Пра яго пішуць, яго згадваюць, яго спецыяльна даследуюць вучоныя Беларусі, Польшчы, Ватыкана і іншых краін.

Дакументальныя крыніцы, якія распавядаюць пра Беразвецкі базыльянскі кляштар, адкладаліся і сёння зберагаюцца ў архівах Мінска, Вільні, Львова, Санкт-Пецярбурга, Варшавы, Рыма. Так, у Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу захоўваецца метрычная кніга Беразвецкай уніяцкай царквы пры базыльянскім кляштары, у якой з 1699 г. рэгістраваліся нованароджаныя, ўступіўшыя ў шлюб, нябожчыкі за 1772-1801 гады. Не адзін з карэнных глыбачан можа знайсці ў ёй звесткі аб сваіх продках.

У 1638 г. ваявода і староста Мсціслаўскі Язэп Корсак запрасіў у Беразвечча манахаў уніяцкага ордэна св. Васіля (Базыля) Вялікага для заснавання манастыра, якому і падарыў свае маёнткі Беразвечча і Вярбілава (Вольберавічы), а на прыбыткі ад апошніх завяшчаў пабудаваць царкву. Драўляны кляштар быў збудаваны і пачаў дзейнічаць з 1643 г. Па некаторых звестках, ужо ў XVII ст. пры ім дзейнічала школка.

У тым жа Санкт-Пецярбургскім архіве зберагаецца настаўленне беразвецкай манаскай брацii (1738 г.): усім удзельнічаць у хоры пад пагрозай пазбаўлення харчавання; забараняецца браць з вернікаў ахвераванні на сваю карысць, забараняецца наведваць бровар і фальварк. Манахам прадпісвалася штодня, вечарам, чытаць малітвы, вучыць ім сялян бліжэйшых вёсак. Кляштар меў не толькі свой бровар, але і карчму, два млыны, якія складалі адну з крыніц прыбыткаў. Карчму здавалі ў арэнду. У 1743 г. яе арэндаваў мясцовы яўрэй Пейсах. Пад гэтым жа годам згадваецца беразвецкі суперыёр Феадосій Канячэўскі, які адначасова з'яўляўся правінцыялам Літоўскай правінцыі базыльянскага ордэна -- гэта вельмі высокая пасада ў ордэне. У 1766 г. у гэтым манастыры прыняў духоўны сан і тут жа на працягу года вучыўся Адрыян Галаўня, які пазней, ужо ў XIX ст., стаў браслаўскім архімандрытам і аршанскім епіскапам. У пачатку XIX ст. манастыр абраў сваёй рэзідэнцыяй уніяцкі мітрапаліт Іраклій Лісоўскі.

Паміж 1756 і 1763 гг. на месцы ранейшых драўляных пабудоў паўстаў мураваны кляштар з Петрапаўлаўскай царквой, што стала вяршыняй архітэктуры віленскага або уніяцкага барока, творамі якога Беларусь увайшла ў гісторыю еўрапейскай архітэктуры. Імя аўтара гэтага шэдэўра нацыянальнага дойлідства дакладна невядома. Мяркуюць, што ім быў таленавіты архітэктар, «дыктатар» вытанчана стылю віленскага барока Іаган (Ян) Глаўбіц. Вядома, што з 1753 г. у рабоце над дэкорам храма, які ўтрымліваў і элементы ў стылі ракако, прымаў удзел архітэктар і лепшчык Ян Табіяш Дыдрыштэн (Дыдрыхштэн).



GŁĘBOKIE -- BEREZWECZ

Два стагоддзі велічна ўзносіла свае стройныя вежы ў нябесную прастору беразвецкая царква. Чатыры франтоны - «дыядэмы», размешчаныя па баках свету, як кароны, вянчалі будынак. Храм здзіўляў фантастычна-пластычнай архітэктурай, надзвычайнай зграбнасцю, вытанчанасцю. Накіраваная ўгару кампазіцыя храма -- гэта сапраўдны ўзлёт творчага ўяўлення дойліда-скульптара. Будаўнічы матэрыял быццам размяк пад яго рукамі і паплыў хвалямі выпуклых і ўвагнутых плоскасцей. Будынак, здаецца, быў не складзены з цэглы, а адліты з нейкай пластычнай масы.

У 1777 г. пры кляштары заснавана базыльянская свецкая школа-канвікт для дзяцей ваколічнай шляхты. Юнакоў з Дзісненскага, Браслаўскага і Барысаўскага паветаў рыхтавалі да грамадзянскай службы на сродкі, якія атрымлівалі ад манастырскіх маёнткаў. грамадзянскай службы. Школа месцілася ў адным з двухпавярховых мураваных кляштарных будынкаў, студэнцкі інтэрнат -- у драўляным. Спачатку гэта была 3-класная, потым 4-класная і ўрэшце -- 6-класная школа. У 80-я гады выкладалі ад 4-х да 6-і прафесароў. Яны навучалі матэматыцы, фізіцы, красамоўству, праву. Вялікая ўвага надавалася філалагічнай падрыхтоўцы выхаванцаў. Беразвецкія школьнікі вывучалі лацінскую, царкоўнаславянскую, беларускую, нямецкую, французскую, польскую мовы.

Адукацыя, якую атрымлівалі дзеці ў Беразвецкай школе, давала права паступаць у Віленскі універсітэт, дзе на манастырскія сродкі займаліся 20 стыпендыятаў. У школе вучылася ў 1782 г. - 20 чалавек, у 1783 г. -- 133; у 1787 г. -- 102; у 1788 г. -- 91; у 1789 г. -- 100 вучняў.

З 1779 г. у Беразвеччы існаваў навіцыят базыльянскага ордэна -- своеасаблівыя курсы павышэння кваліфікацыі для манахаў.

Не пазбеглі беразвецкія базыльяне і канфліктных сітуацый на веравызнаўчай глебе. У 1805 г. мясцовая памешчыца Ф.Клотава перавярнула філіяльную навлоцкую царкву на лацінскі абрад, супраць чаго пратэставаў беразвецкі парох Іосіф Карповіч. Гэты прыватны факт (а такіх у архівах сотні) абвяргае ўсталяваны папярэдняй гісторыяграфіяй стэрэатып, што уніяцтва прыдумана з мэтай акаталічвання беларусаў. Уніяцкая царква адышла ад праваслаўнай і зрабіла крок да каталіцкай, але цалкам зліваца з ёй не жадала, а наадварот, усяляк супраціўлялася пераводу сваёй паствы ў рыма-каталіцызм, чым аберагала нацыянальна-культурную і канфесійную самабытнасць беларускага народа.

У першай трэці XIX ст. Беразвецкі кляштар, як буйнейшы уніяцкі цэнтр Беларусі і значны адукацыйны асяродак уніяцкай царквы, прыцягвае да сябе пільную ўвагу расійскіх свецкіх і духоўных улад, якія ўзялі курс на аправаслаўліванне уніятаў. У 1833 г. настаўнікам закону Божага чатырох вучылішч Беларускай навучальнай акругі, у тым ліку і беразвецкага, прадпісана выкладаць прадмет толькі па катэхізісах, надрукаваных у Маскве ці Пецярбургу і ўхваленых Сінодам. У 1834 г. вядомая далёка за межамі Беларусі Беразвецкая свецкая школа імператарскім загадам была пераўтворана ў 4-класнае праваслаўнае духоўнае вучылішча, якое пачало рыхтаваць кадры святароў. У 1836 г. у ім было ўсяго 35 вучняў. Спачатку школа, а пасля скасавання ў 1839 г. Брэсцкай царкоўнай уніі і увесь кляштар з царквой перададзены ў праваслаўнае ведамства. Манастырскія ўладанні былі канфіскаваны ў рамках царскай палітыкі секулярызацыі царкоўных маёнткаў, землі распрададзены і падзелены паміж вёскамі. Гэта прывяло да заняпаду манастыра, і ў 1874 г. ён быў зачынены. У 1910 г. царква перабудавана, у 1930 -- рэстаўрыравана, а ў атэістычныя савецкія пасляваенныя гады разбурана. Кляштарныя будынкі з 1939 года і дагэтуль займае турма. Але гэта ўжо наступная, больш сумнавядомая, старонка беразвецкай гісторыі.

**С.В.Марозава**
*дацэнт Гродзенскага Дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы.*



Беразвецкі кляштар. Тут жылі базыльяне.

Жыццё якое яно ёсць

# Адраджэнне

Іду вясковай вуліцай. Пацямнелыя ад часу, заімшэлыя шапкі стрэх з цяжкасцю трымаюцца на струхнелых, паточаных шашалем бярвеннях. Падслепавата хмурацца акенцы старэнькіх абшарпаных хат. Ураслі ў зямлю студні, толькі «журавель» з вядром на канцы скрыпуча ўзлятае ўвышыню.... Нягледзячы на гэтую ўбогасць, шугае, буяе зяляніна -- спрадвечны спадарожнік лета. І ўсё ж радуе іншае: ля кожнай хаціны-пенсіянеркі капошацца людзі: там--бабулька сядзіць на прызбе, там -- дзеці лазяць па вішэўніку, тут -- сівенькі дзядок з унукам.

І раптам, нібы камень у акно, боль у сэрца: на месцы хаціны бабулі Марфы--абгарэлыя галавешкі. Пачарнелыя дошкі, «паедзеныя» агнём няхітрыя пажыткі: стары драўляны куфар, лямпа, пару лыжак ды дзіравых кацялкоў. Выпаленае агнём жытло. Праз тыдні два зноў трапіла ў тую ж вёсачку. Здаля пачула дружныя, навыперадкі, стук малаткоў, візглівую «песню» пілы, людскую гамонку. Падышла бліжэй, На месцы згарэлай хаты. Красаваўся новы румяна-смалісты здаравяк-зруб. Бярвенне пахла свежым лесам і дымком. Людзі рупліва ўстанаўлівалі кроквы.

«Унук Марфін вырашыў на дзедаўскім пляцы будавацца,-- сказала падышоўшы суседка.-- З гораду вярнуўся і за тыдзень во якую дамiну паставіў! Дзедаў атожылак. Той таксама быў цяглы. За гэта і раскулачылі. Восем гектараў зямель меў. Каровы, коні. Заўсёды з хлебам жыў, з мясам. Мануфактуру меў. І гэты такі ж (яна кіўнула на маладога загарэлага мужчыну, які спрытна ўпраўляўся з габэлкам). Хто кажа, што ён новы беларус, хто буржуй, хто фермер. А па мне хай як хоча завецца абы зямлю паважаў ды не шкадаваў сілачкі кланяцца ёй у пояс з раніцы да вечара».

Бабуля паклыпала да сваёй хаціны-аднагодкі. На поўныя грудзі я ўдыхнула пах свежай смалы і драўніны і зрабілася так хораша на душы!

Будуюцца людзі. Жыццё працягваецца. Чакай зямелька, маладых, руплівых працавітых рук!

*Галіна Сутула*



Сонейка ў небе, сонейка ў руках, сонейка на твары...

# Малако ёсць --грошай няма

**Пасля павышэння ў канцы мая закупачных цэн на малако, раптам выявілася наколькі за апошні час збяднела насельніцтва нашай краіны.**

Аб`ёмы рэалізацыі малочнай прадукцыі заводаў Віцебскай вобласці рэзка ўпалі, а затрымкі выплат грошай пастаўшчыкам павялічыліся. Вось і ААТ «Пастаўскі малочны завод» цяпер не рады штодзённаму паступленню 120 тон малака, што амаль у дзесяць разоў больш мінулагодняга. Не ведаюць на заводзе дзе браць грошы, каб разлічыцца і з гаспадаркамі, і з прыватнікамі, ад якіх паступае кожны дзень да 30 тыс. тон сырадою. Гатовай прадукцыя, сырамі і сметанковым маслам, забіты ўсе халадзільныя камеры. Прадукцыя паступае ў Мінск, Віцебск, іншыя гарады без гарантыі сваечасовай аплаты, таму што ў гарадах свае запасы непрададзенай прадукцыі. Мясцоваму насельніцтву і гаспадаркам Пастаўскі малаказавод не выплаціў больш 250 мільёнаў рублёў. Падобныя праблемы існуюць і на Лепельскім, і на Глыбоцкім МКК.

У. Шык

# ТУТ МАГЛА БЫЦЬ ТВАЯ РЭКЛАМА!


Фота Ул. Скрабатуна

Задумаемся

# Украдзеныя святы

З якога б боку не пад`язджаў да родных мясцін, ужо за некалькі кіламетраў выразна бачу манументальныя вежы храма. Талент нашых продкаў, іх культура і пачуццё прыгожага дазволілі заснаваць у маіх Дунілавічах у далёкім 1623 годзе дамініканскі касцёл. Спачатку будынак быў драўляны, а да 1773 г. ён «апрануўся» ў камень. Яшчэ праз стагоддзе была праведзена рэканструкцыя і сёння збудаванне прываблівае веліччу і хараством архітэктурных форм. Яшчэ хлапчуком я любаваўся ім і маляўнічымі краявідамі ваколіц, якія адкрываліся з вышыні вежаў на фасадзе, куды так цікава было лазіць.

Пасля вайны наш касцёл, як і сотні іншых, быў зачынены. Дзесяцігоддзямі храмы стаялі ў запусценні. У будынку дунілавіцкага храма спачатку размясцілі склады зерня і ўгнаенняў, а затым пакінулі яго на волю лёсу. Раней велічны, манументальны ён так і стаяў адкрыты ўсім вятрам амаль 40 гадоў. Потым павеялі вятры гарбачоўскіх перамен і вернікам пачалі вяртаць іх святыні. Нягледзячы на тое, што гэтаму ўсяляк супрацiўляліся мясцовыя чыноўнікі, людзі дабіліся магчымасці хадзіць у свой касцёл. За кароткі тэрмін быў зроблены рамонт даху, закончаны аднаўленчыя работы ўнутры. Неўзабаве парадаваў слых прыхаджан чароўны гук аргана. Асабліва ўзнёсла і пранікнёна ідзе тут служба на Велікодныя святы. Праўда, апошнім часам людзей прыязджае ўсё меней і прычына таго -- указ аб дзяржаўных святах і святочных днях. Так, у Вялікую Суботу сёлета многія не маглі прыйсці ў храм, бо іх прымусілі падмятаць вуліцы -- быў дзень «добраахвотнага» суботніка.

Чаму так адбываецца ў краіне, здзіўляцца не трэба. У краіне ўсё кантралюецца і рэгулюецца, у тым ліку і межы рэлігійнай свабоды. Захацелі -- Радуніцу пакінулі, а Дзень памяці продкаў Дзяды -- адмянілі. Сутнасць усяго ў тым, што тыя, хто кіруюць Беларуссю і заяўляюць аб прыхільнасці да хрысціянскіх каштоўнасцей, не верылі і не вераць ні ў рынкавы сацыялізм, ні ў Бога. З-за абыякавасці да працэсаў, якія адбываюцца ў грамадстве, тон у краіне пачалі задаваць людзі нахабныя, беспрынцыповыя, амаральныя. Заўважаю,што пабалела суайчыннікаў, якія перасталі згаджацца з існуючымі парадкамі, але паранейшаму баяцца сказаць слова супраць глупства і памылак улад. Калі мы і далей сваёй маўклівай згодай будзем падтрымліваць палітычных цынікаў, то ў хуткім часе спазнаем бяду куды большую, чым украдзеныя святы, галеча і рост цэн. Само існаванне беларускай нацыі можа трапіць пад пагрозу.

*У. Шык*

**Радыё «Рацыя»**

*E-mail: radio.racija@poczta.wp.pl*

| | |
|---|---|
| 7:00 -- 8:00 | 6035 кГц |
| 8:00 -- 9:00 | 6035 кГц |
| 13:00 -- 14:00 | 6180 кГц |

# БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

**ВЫПІСВАЙЦЕ ГАЗЕТУ ТБМ «НАША СЛОВА»**

Для гэтага Вам неабходна напісаць свой адрас на бланку і аплаціць падпіску на пошце.
«Наша слова» выходзіць штотыдня
(індэкс 63865)

Кожны, хто падпішацца на II паўгоддзе і пакажа (альбо дашле на адрас Сядзібы ТБМ: №13, вул. Румянцава, 2220005, Мінск) падпісны квіток, атрымае ў падарунак добрую кнігу на беларускай мове.

**БЕЛАРУСКУЮ ГАЗЕТУ -- КОЖНАЙ СЯМ`І!**

***

**Прадаецца хата ў вёсцы Завараты.**

Ёсць студня, сад, хлеў. Кошт па дамове.

Звяртацца на адрас: Глыбоцкі раён, 211821, п/а Дзеркаўшчына, в. Латыголь, Лупач Уладзімір Зыгфрыдавіч.

***

Прадаецца BMW-525 Турба-дызель, 1983 года выпуску ў добрым стане, рухавік 1990 года. Цэнтральны замок, люк, гідраўзмацняльнік руля. Расход паліва -- 7 л. на 100 км.

Кошт па дамове. Тэлефанаваць у Глыбокім 2 37 54.

***

Шукаю сяброў, аднадумцаў, якія цікавяцца экалогіяй, прыродай і гісторыяй роднага краю для правядзення сумесных экспедыцый і даледванняў Глыбоччыны і ўсяго паўночнага захаду Беларусі.

Пісаць на адрас: Зміцер Лупач, в. Завараты, 211821, п/а Дзеркаўшчына, Глыбоцкі раён.

***

Прадам або абмяняю коней на аўтамашыну «Жыгулі»

Пісаць на адрас: Феакціст Фядотаў, в. Дубнякі, Вароніцкі сельсавет, Полацкі раён або тэлефанаваць у Наваполацк па нумары 8-(244) 2 85 18 з $20^{00}$ да $21^{00}$.

***

Будую хаты, гаражы, хлявы, падмуркі, платы з каменя
Тэл.: 2 37 54 (у Глыбокім)

***

**Тэрмінова прадаецца**

легкавы дызельны аўтамабіль

Mitsubishi -- Colt 1986 г. выпуска. Пяціступеньчатая КПП, аб`ём рухавіка 1,8. Звяртацца па тэлефоне 2 12 74 (у Глыбокім).

***

Жадаючыя атрымаць новую кнігу славутага Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» дашліце замову, свой дакладны адрас і 2200 рублёў Алесю Міхайлавічу Сабаленка, п/с 268, 220131, Мінск-131. Кнігу атрымаеце праз пошту. У Мінску кнігу можна набыць ў сядзібе Таварыства беларускай мовы: Мінск, вул. Румянцава, 13.



*З павагай Алесь Сабаленка*

# ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**У рэдакцыі газеты «Витебский курьер» будзе працаваць «прамая лінія».**

Кожны аўторак з $17^{00}$ да $18^{00}$ па тэлефоне 37 76 82 Вы зможаце звярнуцца да прадстаўніка Беларускага Хельсінскага камітэта з інфармацыяй аб парушэнні Вашых грамадзянскіх правоў. Усе антыканстытуцыйныя факты будуць зафіксаваны, а Вы зможаце атрымаць кансультацыю.

**По праблемах парушэння правоў чалавека Вы зможаце звяртацца і па тэлефонах 2 37 54 ў Глыбокім, 2 14 28 у Браславе, 2 31 11 у вёсцы Заазерцы Шаркоўшчынскага раёна, 2 27 58 у Паставах.**

**Набывайце «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку»!**

«ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ»
Незалежная рэгіянальная газета.
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №1099, выдадзена Дзяржаўным Камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 года

Газета выходзіць два разы на месяц. Аб`ём -- 2 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 3 жніўня 2000 года ў 13-30.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Юрыдычны адрас: 211800, г. Глыбокае, вул. Маскоўская, 121

Тэлефон: 23754 (Галіна СУТУЛА)

Наклад 1000 паасобнікаў

Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, вул. Валадарскага, 67.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк. вул. Блахіна, 26 Замова 4571.